# ПАГОНЯ

**Цэна №—1 аукс.**

**ГРАМАДЗКАЯ, ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залатых на апошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**Адрэс рэдакцыі і канторы:** Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень ад 1—3 гадз. Кантора адчынена што дзень ад 9—3 гадз.

**Падпіска каштуе:** на 10 № № ўпярод — 10 зал. „ 5 „ „ — 5 „ Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы** ня прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачаваюцца па пагляду Рэдакцыі.

**№ 15.** **Коўна, Пятніца, 27 лістапада 1920 г.** **Год І-шы.**


# ГРАМАДЗЯНЕ!

Літва, якой пагражае небясьпека, чакае Вашай дапамогі. Не запамінайце, што Вы яе сыны—сьпяшыце яе асвабадзіць. Бярыце аружжо ў рукі і выганяйце ворага.

Але перад Бацькаўшчынаю не правініцеся тыя, каторыя ня ў сілах бараніць яе аружжам,—пазычце хоць частку сваей маемасьці, **купляючы Надзвычайны Заём.**

**Пастарайцеся добра споўніць высокія абавязкі Літоўскага Грамадзяніна!**

## Абвешчэньне Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці.

Згодна закону Дзяржаўнага Банка за № 490 аб Надзвычайным Займе дзеля патрэб Абароны Краю, Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці гэтым даводзіць да агульнага ведама, што 20 лістапада г. г. ва ўсіх банках і Казначэйствах Літвы—у Коўне, Аліце, Вількавішках, Сэйнах, Лаздзее, Троках, Кашэдарах, Ежэрэнах, Дусятах, Шаўлях, Ракішках, Посволе, Паневежы, Уцянах, Можэйках, Крэцінге, Таўрогэне, Расіенах, Кэйданах, Тэльшах, Вількаміры і Марыямполе—пачнецца продажа Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю.

Усе грамадзяне, жадаючыя набыць Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю, зьвертаюцца самі ці праз сваіх упоўнаважных у бліжэйшыя банкі і Казначэйства, ўносяць грошы (ня менш 50 аўксінаў) і атрымліваюць, па свайму пагляду, імянную ці не імянную квітанцыю з адметкаю, ў ёй нумэра прэміі. Усе купляючыя Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка атрымліваюць процэнты ўперад за тры гады, па 3 аукс. 60 скат. у год з кожнай соткі, лічучы ад 1 чысла наступаючага месяца да 1 сьнежня 1923 года.

Усе грамадзяне, пасьпеўшыя купіць Надзвычайны Заём Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю да Травеня 1921 года, участвуюць у выйгрышы прэміяў, каторыя йдуць у гэткім парадку:

| | | |
|---|---|---|
| Адзін выйгрыш | . . . . | 100,000 аўкс. |
| Два „ | . . . па | 50,000 „ |
| Дванаццаць „ | . . . „ | 25,000 „ |
| Пятнаццаць „ | . . . „ | 10,000 „ |
| Дваццаць „ | . . . „ | 5,000 „ |
| Сто пяцьдзесят | . . . „ | 1,000 „ |
| Тысяча | . . . „ | 500 „ |
| Дзьве тысячы | . . . „ | 200 „ |
| Дзьве тысячы | . . . „ | 100 „ |

Усяго выйгрышных нумэроў 5200 на агульную суму 2,000,000 аўксінаў. Кожныя 50 аўксінаў, пазычаныя Дзяржаўнаму Банку, даюць магчымасьць выйграць прэмію аднаго нумэра. Пазычаць могуць усе, хто толькі хоча і на чые захоча імя, ня выключаючы малых і няпоўналетніх.

Ад каго далёка Банк, або хто па якой—небудзь прычыне ня можа зайсьці ў Банк, можна паслаць грошы па почце; атрымаўшы грошы з бліжэйшай почты, банк зараз жа прышле квітанцыю Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка дзеля патрэб Абароны Краю.

Квітанцыі Надзвычайнага Займа прымаюцца ўсімі дзяржаўнымі ўстановамі і банкамі, як залог, а па жаданьню гэтыя-ж квітанцыі банк сахраняе дарма.

Хто ня мае гатовых грошай, а мае рэквізыцыйныя ордэры ці страціўшыся тэрмін боны Дзяржаўнага Займа, зараз-жа можа замяніць іх на квітанцыі Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка.

Міністэрства Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці спадзеецца, што ўсе грамадзяне і жыхары Літвы нямедля споўняць сваі абавязкі і як найхутчэй будуць купляць Надзвычайны Заём. Квітанцыі Надзвычайнага Займа Дзяржаўнага Банка пачнуць аплачваць 31 сьнежня 1923 года.

Міністр Грашовых Спраў, Гандлю і Прамысловасьці **Гальваноўскі.**
Дырэктар Дэпартамэнту Дзяржаўнага Скарбу **Дульскі.**

*Коўна, 27 лістапада.*

Паблікуемае ніжэй апавешчэньне Літоўскага Ураду наконта адбыўшагося ў Коўне ў пэрыяд з 28. X—10. XI г. г. абмена поглядаў з Прэдстаўнікамі Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўляецца гістарычным момантам у жыцьці абодвых Народаў.

Ёсьць многа лоўкіх асоб, самазванцаў, авантурнікаў, каторыя стараюцца прысвоіць сабе права гаварыць ад імя Беларусі і беларусаў, прадаваць іх інтарэсы па частках, рабячы з гэтага сабе лёгкую нажыву. Але ёсьць толькі адзін супраўдны дэмократычны, вырасшы з нэдраў самога народу, выбраны Усебеларускім Зездам у Менску ў 1918 г. Часовы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі з п. Ластоўскім на чале, каторы вызнан цэлым радам гаспадарстваў, у тым ліку і Літоўскай Рэспублікай.

Праўда, Урад Б. Н. Р. не знаходзіцца яшчэ на сваей тэрыторыі, ня мае яшчэ арганізаванага свайго аппарату упраўленьня, дзякуючы якому магла-б з'дзейсьніцца даверная яму народам улада, але за тое гэты урад абладае самым цэнным качэствам, каторым даражыць кожная запраўды дэмократычная улада—а імённа гэны Урад вядзе барацьбу за поўную незалежнасьць і самастойнасьць Б. Н. Р.

Абвешчэньне нашага Ураду вельмі зжатае і лаканічнае. Аднак-жа ў нямногіх словах усё-такі сказана многа. Абодвыя Урады прышлі да пераконаньня, што інтарэсы абедзьвюх нацыяў вымагаюць супольнай працы і поўнага кантакту ня толькі ў сучасны момант, але і на будучы час, згодна таму, як палітычнае жыцьцё абодвых народаў агуль-

## Грамадзянкі Літвы!

Вашы сыны—Літоўскія салдаты—цяпер стаяць на фронце, абараняючы Родную Старонку ад чужаземных разбойнікаў. Яны пераносяць нязьмерны холад, трымаючы аружжо голымі рукамі і стоячы ў мароз на варце. Ад Вас нашы абароннікі чакаюць дапамогі гатоўце рукавіцы, цёплыя шкарпэткі і пасылайце ў **Камітэт Нацыянальнай Абароны Літвы дзеля адсылкі на фронт.**

---

ным ручаём цякло сталецьцямі ў сьветлым прошлым. Супольная барацьба іх з захватнымі жаданьнямі польскага імпэрыялізму з'яўляецца толькі асобным выпадкам у іх агульным палітычным жыцьці.

Мы, грамадзяне Літоўскай Рэспублікі Беларускай нацыянальнасьці, волею гісторыі прызваныя да будаўніцтва нашага Літоўскага Гаспадарства, будзем з асаблівым пачуцьцём і інтарэсам сылядзіць за успехам будаўніцтва суседняга родсьцьвэннага гаспадарства—Беларускай Народнай Рэспублікі.

Мы цьвёрда верымо, што калі нашы саюзьнікі закончаць сваё дзяржаўнае будаўніцтва, то будучы Устаноўчы Сойм Беларусі так сама ацэніць, вызнае і сваім высокім аўтарытэтам зацьвердзіць шляхі, намечаемыя ў сучасны момант Урадамі п. п. Грынюса і Ластоўскага.

## Хроніка.

### Урадавае апавешчэньне.

У пэрыяд часу ад 28 кастрычніка па 10 лістапада 1920 году прысутствавалі ў Коўне прэдстаўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі і мелі рад савешчаньняў з п. Міністрам Міжнародовых Спраў і другімі прэдстаўнікамі Літоўскага Ураду.

З абмену мненіяў выясьнілася поўная салідарнасьць паглядаў абодвых урадаў і разуменьне агульнасьці ўзаемных інтарэсаў, заложаных па факце супольнага дзяржаўнага жыцьця Літоўскага і Беларускага Народаў у працягу многіх вякоў.

Абодвыя Урады гатовы падтрымліваць адзін другога пры іх дзяржаўным будаўніцтве і ў паасобку ў агульнай барацьбе проці захватных жаданьняў польскага імпэрыялізму.

Абодвыя Урады глыбака пераконаны' што меўшы месца абмен паглядаў паслужыць моцнай падставай больш чым дружалюбнага сажыцьця абодвых народаў у іх будучыне.

### Плебісцыт і Беларусы.

Як передае газэта „Litwa", Урад Беларускай Народнай Рэспублікі паслаў у Лігу Нацыяў пратэст па поваду яе пастановы зрабіць плебісцыт, прыняўшы пад увагу толькі Літву і Польшчу, ігнарыруя Беларусь, як самастойную Дзяржаву, і патрабуе свайго учасьцьця ў арганізацыі плебісцыту.

### Нават „Robotnik" ня згодзен.

Паны „князі" заводзяць ва Усходняй Галіцыі адносіны паншчыны.

Вось аб чым паведамляюць львоўскія газэты ад 23 кастрычніка:

У вёсцы Дзьмітраве Радзехаўскага павету малады князь Сапега загадаў сазваць усю вёску пад цэркву, дзе прыказаў сялянам аддаць аружжо, якое, быццам, мела быць у вёсцы. Жыхары прысягаліся, што ніякага аружжа ня маюць, а таму й аддаць ня могуць. Малады князь тады іначай да іх прагутарыў. Ён аддаў загад сваім „сепачом", і пачалося катаваньне. Найперш расцягнулі войта Мельніка, 60 гадовага старыка. Усыпалі яму 200 батаў. Далей княжаскія „сепачы" выкатавалі дачку і сына Мельніка, усыпаўшы кожнаму з іх па 50 батаў. Арандатару Ёселю Стэнбэргу ўсыпалі 100 батаў, аж яго кроў заліла, а жонцы яго—25 батаў. Маладусе, якая ў дзень гэтага катаваньня мела абвенчацца і была пад цэркваю убраўшыся ў шлюбнае адзеньне, усыпана 25 батаў, яе дружкам—так сама па 25. І гэтак далей і далей трывала гэная оргыя зьдзеку.

Так магнатэрыя працуе на крэсах, каб з'еднаць ня польскую люднасьць для Польшчы.

## Ваенна-палітычны абгляд.

Ваеннае становішча на Літоўска-Польскім фронце знаходзіцца пад знакам зарваньня польска-савецкіх мірных перагавораў у Рызе, скончыўшыхся адказам дэлегата Савецкай Расеі Іоффэ вясьці гэткія пры злажыўшэйся палітычнай сытуацыі, вызванай многаразавым нарушэньнем Польшчай прэлімінарнага польска-савецкага дагавору. У зьвязку з навісшай новай пагрозай большавізму над Польшчай і авантурай гэн. Жэлігоўскага, польскі гэнэральны штаб праз свой урад рашыў пакрыць сваім аўтарытэтам авантуру гэнэрала Жэлігоўскага і аб'явіў, што адпаведальнасьць у будучыне за дзейсьцьвія гэнэрала Жэлігоўскага нясе Польскі Урад. Старшыня Кантрольнай Камісіі Лігі Народаў палк. Шардзіньне, прымаючы пад увагу новыя варункі, прапанаваў Літве і Польшчы стрымаць ваенныя дзейсьцьвія і зрабіць замірэньне з 23 лістапада 1920 году, якое, дзякуючы згодзе збоку Польшчы і Літвы, і наступае з показанага чысла.

Літоўска-Польскі канфлікт і спор аб Вільні быў прадметам разгляду Брюссэльскай канфэрэнцыі Лігі Народаў, на пасяджэньні каторай былі такія аўтарытэтныя знаўцы міжнародовага права як Бальфур, Тіттоні, Буржуа, прапанаваўшай Літве і Польшчы, як спосаб вырашэньня тэррытарыяльнага спору, плебісцыт у спрэчных вобласьцях. Такім чынам юрыдычная форма развязаньня польска-літоўскага канфлікту ўжо знайдзена. Патрэбна толькі ўліць у яе нешта канкрэтнае. Цяперака абедзьвюм старанам трэба дасягнуць згоды па пытанью аб усіх варунках дзеля праведзеньня плебісцыту. Заданьне засядаючай цяпер Жанэўскай Канфэрэнцыі Лігі Народаў абсудзіць усе пытаньні аб абшары, зоне, кантроле і спосабах праведзеньня плебісцыту. Польска-Літоўскі канфлікт гэты раз разглядаўся толькі першаю інстанцыей Лігі Народаў—яе Радай, у заданьне каторай уходзіць абсьледаваньне спораў, пасьля чаго пытаньні паступаюць на разрашэньне другой інстанцыі—пленума Лігі, каторы можа вынясьці сваю пастанову або перадаць справу на разгляд вышэйшай інстанцыі—суда. У сучасны момант істнуюць толькі дзьве першыя інстанцыі. Склад суда будзе выбран у Жэнэве. Шансы Літвы ў разглядаемым канфлікце вялікія, бо ня толькі Англія, але і Францыя прызнаюць яе праваты і называюць справу Жэлігоўскага польскай авантурай. На старане Літвы стаяць Кэрзон, Сэсіль, Леон Буржуа і Камбон. Усе дзяржавы высказваюцца проці плебісцыту ў Вільні пад польскім валадарствам. У выпадку непадчыненьня Польшчы пастановам Лігі, проці яе будуць прыняты рэпрэсыўныя меры. Па поваду пастановы Лігі нацыяў развязаць польска-літоўскі канфлікт сбосабам плебісцыту ў спорных вобласьцях Урад Беларускай Народнай Рэспублікі паслаў у Лігу Нацыяў пратэст, у якім указываецца, што Лігай, у яе пастанове, ня прынята пад увагу Беларусь, як самастойная дзяржава, і вымагае права ўчасьцьця Беларусі ў арганізацыі гэнага плебісцыту.

* * *

Польска-савецкі мір абгаварваўся ў расейскай палітычнай делегацыі ў Парыжы, пры чым вынесена пастанова апрацаваць ноту пратэсту проці вырашэньняў мірной польска-савецкой канфэрэнцыі. Расейская палітычная дэлегацыя намерана пратэставаць проці намечанай цяпер руска-польскай граніцы, якую праводзяць з аднаго боку прэдстаўнікі Польшчы, а з другога—прэдстаўнікі бальшавіцкай улады. Савецкі урад, будзе падкрэсьлена ў пратэсьце, не з'яўляецца законнаю расейскаю уладай і выразіцелем жаданьняў шырокіх народных массаў. Таму прэдстаўнікі гэнае ўлады ня могуць вырашаць пытаньняў аб новых граніцах Расеі і об аттаржэньні ад яе тых ці іншых вобласьцяў.

Х. Ш.

### Беларускае Дыплёматычнае Прэдстаўніцтва ў Літве.

Дыплематычнае Прэдстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі ў Літве ўжо пачало сваю працу.

Канцэлярыя часова знаходзіцца: Алея Свабоды, Готэль Мэтрополь, № 22.

Прыём ад 11 да 1 гадзіны.

## Грамадзяне!

**Далёка лепей пазычаць грошы Дзяржаўнаму Банку і абараняцца ад палякаў, ніж з прыходам іх усяго лішыцца.**

Разумна паступае той, хто купляе Надзвычайны Заём, бо ён знае, что гэтым абараняе сваю свабоду і маемасьць.

* * *

Выйграць можна толькі купляючы Надзвычайны Заём, бо, пазычаючы, нічога не прайграеш, а можаш выйграць 50 або 100 тысяч аўксінаў.

* * *

Самы моцны даўжнік гэта Дзяржаўны Банк, пазычай яму—пазычка ніколі ня згіне.

## Грамадзянін!

**Ты разумееш, што без аружжа немагчыма ваеваць і выгнаць палякаў. Пазычай Дзяржаўнаму Банку грошы дзеля закупкі аружжа!**

Выдавецтва і рэдакцыя: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. Коўна, вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

ДРУКАРНЯ А. БАКА і Х. МАНКЕС, КОЎНА.